ГРОДНА
№22 (551),
6 снежня 2020

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Выключная Маці




*Марыя была адкуплена, як і ўсе людзі. Хоць і інакш, чым мы, больш дасканала.*

*на старонцы* 2

## Пазбаўляемся ад празмернага і неабдуманага спажывання




*Каб менш смеціць, трэба менш набываць.*

*на старонцы* 5

## Чаму нельга біць дзіця?




*Лёгкі пляскач толькі нашкодзіць. Калі мяне збіваюць, то і я магу біць іншых?*

*на старонцы* 6



# АДВЭНТ 2020: СВЯТЛО Ў ЦЕМРЫ

**Заўсёды чакаем прыйсця Адвэнту як шансу на больш узвышаны дыялог з Госпадам, асабістае ўнутранае перамяненне, а можа, і на змены знешнія: новую працу або паляпшэнне атмасферы ў сям'і. Сёлета, магчыма, спадзяёмся і на больш маштабныя змены: што скончыцца пандэмія, якая ўжо надакучыла, і адродзіцца супакой і згода ў краіне.**

*на старонцы* 3

## ПАПАЎНЕННЕ Ў ОРДЭНЕ ФРАНЦЫСКАНЦАЎ



*Пастава ляжання крыжом у знак поўнага прысвячэння сябе Богу*

**Ва ўспамін Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Ордэне Братоў Меншых Канвентуальных склаў вечныя манаскія абяцанні бр. Віктар Марыя Мялешка OFMConv. Урачыстасць адбылася падчас св. Імшы ў францысканскім касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне.**

*на старонцы* 4

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

*Час сёлетняга Адвэнту з'яўляецца добрай матывацыяй, каб прадпрыняць канкрэтныя дзеянні і напружана папрацаваць над сабой. Разам з чарговымі днямі чування да нас прыходзіць Любоў, а таму варта і нават неабходна належным чынам падрыхтавацца да гэтай падзеі.*

*Кожны, хто ўспрымае сваё жыццё як падрыхтоўку да самай важнай сустрэчы, не толькі адкажа на пытанне "што мне рабіць у Адвэнце?", але штодня будзе працаваць над недахопамі. Сваімі недахопамі. Захоча навярнуцца. Ачысціць сваё сэрца. Аддаліцца ад рэчаў гэтага свету і паглядзець у бок Неба.*

*Ніхто не любіць думаць, што ён далёкі ад дасканаласці. Няпроста пакінуць зручную, ужо пратаптаную сцежку і пачаць жыць па-новаму. Але іншага выхаду няма. Калі мы хочам дабрацца да мэты, важная не якасць дарогі, а кірунак, у якім яна вядзе. А мэтай кожнага чалавека з'яўляецца Неба.*

*Навяртанне – гэта не праполка градкі. Мы можам вырваць адно ці другое пустазелле, але на іх месцы вырасце новае. Навярнуцца – значыць змяніць сваё мысленне. Сказаць сабе, што я больш не люблю зло, што больш не прывязаны да яго. Хачу ісці за Езусам і жыць так, як бы Ён жыў на маім месцы.*

*Няхай сёлетні Адвэнт стане для кожнага з нас плённым часам у пошуках Езуса ў сваім жыцці. Шукайма Хрыста ў літургіі, у малітве, у Божым слове, у сакрамантах, у паўсядзённасці і ў іншым чалавеку. Не трэба баяцца адкрыць Яму дзверы сэрца. Неабходна супакоіцца, засяродзіцца і прымаць мудрыя, адпаведныя з Божай воляй, рашэнні.*



*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**6 снежня**

***II Нядзеля Адвэнту. Дыяцэзіяльны дзень малітвы за ўсіх дабрадзеяў Касцёла.***

*Штогод у II Нядзелю Адвэнту ва ўсіх парафіях у Польшчы збіраюцца ахвяраванні на асобныя праекты, якія накіроўваюцца ў офіс Супольнасці дапамогі Касцёлу на Усходзе пры сакратарыяце Канферэнцыі епіскапату Польшчы. Сярод тых, хто можа разлічваць на дапамогу, ёсць і Касцёл у Беларусі.*

*Супольнасць дапамогі Касцёлу на Усходзе была створана ў 1989 годзе па ініцыятыве тагачаснага прымаса Польшчы кард. Юзафа Глемпа.*

**8 снежня**

***Урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.***

*Догма аб Беззаганным Зачацці Марыі з'яўляецца праўдай каталіцкай веры. Яе ўрачыста абвясціў 8 снежня 1854 года булай "Ineffabilis Deus" папа Пій IX у базіліцы св. Пятра ў Рыме (Італія). Згодна з догмай аб беззаганнасці Марыі, з моманту зачацця Яна была захавана не толькі ад усякага граху, які магла здзейсніць, але і ад першароднага граху, які кожны чалавек атрымлівае ў спадчыну.*

**13 снежня**

***III Нядзеля Адвэнту – Нядзеля радасці.***

*III Нядзеля Адвэнту ў Касцёле называецца "Gaudete", г. зн. нядзеля радасці. Часам яе яшчэ называюць руржовай нядзеляй, бо гэта адзін з 2-ух дзён года, калі святар цэлебруе літургію ў ружовых шатах.*

**14 снежня**

***Успамін св. Яна ад Крыжа, прэзбітэра і доктара Касцёла.***

*Св. Ян ад Крыжа нарадзіўся каля 1542 года ў Іспаніі. Уступіў у ордэн кармэлітаў, а ў 1568 годзе пад уплывам св. Тэрэзы Авільскай стаў першым манахам рэфармаванага Кармэля. Прысвяціўшы сябе гэтай рэформе, зведаў шмат цяжкасцей і нягод.*

*Памёр у 1591 годзе. Характарызаваўся асаблівай набожнасцю і мудрасцю, пра што сведчаць яго працы аб духоўным жыцці.*

# ВЫКЛЮЧНАЯ МАЦІ

працяг са с. 1

**Штогод падчас Адвэнту перажываем урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Касцёл запрашае нас праслаўляць Бога за прадказаную спрадвеку Жанчыну, чыё патомства сцерла галаву д'яблу, – Марыю.**

*Кс. Юрый Марціновіч*



*Урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Зэльве, 2019 г.*

### МІСІЯ ДЛЯ МАЦІ АДКУПІЦЕЛЯ

Нам пашанцавала жыць у час, калі Бог вярнуў людзям годнасць Яго дзяцей. У Езусе Хрысце Творца прынізіў сябе, прыняў "постаць слугі" (параўн. Флп 2, 7), стаў адным з нас, нашым братам, каб адарыць удзелам у сваім жыцці, у сваёй велічы і славе.

Каб стаць падобным да чалавека ва ўсім, акрамя граху, Ён захацеў прайсці ўсе этапы нашага жыцця, адначасова асвячаючы іх. На гэтым шляху не магло не быць Маці, якую Бог абраў для выканання важнай і канкрэтнай місіі, хаця і вельмі складанай для зразумення абмежаваным чалавечым розумам. Аднак адказ дае нам Евангелле, дзе можам прачытаць: "Для Бога няма нічога немагчымага" (Лк 1, 37).

### АДОРАНАЯ ЛАСКАЙ У МЕРУ ВЫКЛЮЧНАГА ПАКЛІКАННЯ

Марыя павінна была стаць Маці Дзіцяці, пра якое гаварыў анёл: "Святое, што народзіцца, будзе названа Сынам Божым" (Лк 1, 35). Таму Ёй самой належала быць святой.

Марыя – Маці Адкупіцеля, Пераможцы зла, граху і д'ябла, аднак, разам з тым, чалавек, дачка Адама, і, як усе людзі, патрабавала адкуплення. І Яна была адкуплена, хоць і інакш, чым мы, – больш дасканала.

Маці Адкупіцеля была захавана ад падзення ў грэх, у той час калі мы ўсе вызвалены з няволі граху, узняты з яго. Маці Збаўцы, Святога над святымі, адорана ласкай у меру выключнага паклікання. Асвечаная, абароненая ад першароднага граху – Беззаганная! Таму ў Ёй не было нават ценю граху. Павінны пакорліва прызнаць, што гэтай свабоды ад усіх плям граху, а таксама нявіннасці і святасці ніхто, акрамя Бога, не можа ні зразумець, ні ўявіць.

### МАЦІ ХРЫСТА І ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ

Марыя была адорана надзвычайнай ласкай не з-за асабістых заслуг, але з прычыны Святога, з прычыны Яе боскага мацярынства. І, такім чынам, у канчатковым рахунку дзеля нас, бо Божы Сын нарадзіўся дзеля нашага збаўлення.

Пан Бог, жадаючы вярнуць чалавеку годнасць Божага дзіцяці і знішчаныя першародным грахом вобраз ды падабенства, запланаваныя падчас стварэння, узнавіў іх спачатку ў Марыі. Маці Збаўцы ўсведамляла выбранне, якога ніяк не заслужыла. Прызнавала, што Бог адкупіў Яе праз свайго Сына: "Узрадаваўся дух мой у Богу, маім Збаўцу" (Лк 1, 47).

А Касцёл укладвае ў вусны Беззаганнай словы прарока Ісаі: "Ён апрануў мяне ў шаты збаўлення, плашчом справядлівасці ахінуў мяне" (Іс 61, 10).

Марыя аддае належную пашану Богу: "Велічае душа мая Пана..." (Лк 1, 46). Таму адразу пасля Звеставання Яна пакорліва накіроўваецца да Альжбеты, каб служыць ёй. А ўласную місію будзе перажываць у цярпенні побач з пакутуючым Збаўцам. Яна выканае сваё пакліканне да канца, не змарнуе атрыманую ласку.

> **"Ідзі з любоўю да ўсіх, таму што тваё жыццё з'яўляецца цэннай місіяй: гэта не цяжар, які трэба вынесці, а дар, які трэба прапанаваць. Адважней, не бойся: хадзем да ўсіх!".**
>
> *Папа Францішак*

### ПАКЛІКАНЫЯ ЗБАВІЦЬ СВЕТ

Марыя магла сказаць Богу "так", а магла адмовіцца. У сваёй свабодзе Яна бязмерна даверылася Айцу. Цалкам рэалізавала сваё пакліканне, ажно да крыжа, да трывання ў малітве з апосталамі ў Вячэрніку. Беззаганна Зачатая вучыць нас адказваць на Божы заклік, на Яго дар.

Бог, заклікаючы да святасці, да ўдзелу ў Яго жыцці, да збаўлення свету, да шчасця, ставіць нас у канкрэтным месцы і часе, даручае пэўную задачу. Адначасова робіць нас здольнымі прыняць Яго волю як запрашэнне да ўдзелу ў справе збаўлення, у пабудове Божага Валадарства.

Самым вялікім дарам Бога з'яўляецца пакліканне. Яно ажыццяўляецца тут і зараз – у сям'і, на вучобе ці працы, а таму мы павінны на ўзор Марыі станавіцца "святымі і беззаганнымі". Можам быць упэўнены, што ўслед за нашым паклікannem выплываюць ласкі для яго рэалізацыі. Калі Усемагутны выбірае для кожнага чалавека пэўны шлях, то таксама адорвае сілай прапарцыйна велічыні задач і паклікання. Пан Бог ніколі не пакідае нас адных.

# АДВЭНТ 2020: СВЯТЛО Ў ЦЕМРЫ

працяг са с. 1

**У перыяд радаснага чакання мы ўваходзім з цяжарам уласных перажыванняў, якія ў гэтым годзе пагоршылі абставіны навокал. Чым у такім выпадку натхняцца? Як абудзіць адвэнтавую весялосць, калі кіруеш да Пана чарговае "чаму" і "за што" і не знаходзіш адказу? А можа, мы проста не да канца рассмакавалі, чым начынена сапраўдная радасць? Спрабуем разабрацца…**

Ангеліна Марцішэўская

### НЯДЗЕЛЯ "GAUDETE" ЯК КУЛЬМІНАЦЫЯ РАДАСЦІ

*Кс. Яўген Амасёнак*

Напэўна, кожны з нас яшчэ з дзяцінства прызвычаіўся называць Адвэнт часам радаснага чакання. Аднак у мяне неаднойчы ўзнікалі думкі накшталт "як жа можна рыхтавацца да прышэсця Хрыста і пры гэтым «па дарозе» не згубіць радасць?". Бо калі хочаш па-сапраўднаму быць гатовым да бясцэннай сустрэчы, трэба шмат чаго паспець змяніць у сабе.

Звычайна гэта балючы працэс, які патрабуе ад чалавека пэўнага высілку і працы над сабой. Неабходна, напрыклад, мець дастаткова мужнасці і адвагі, каб стаць у праўдзе перад Богам, самім сабой і бліжнімі, аддаліцца ад празмернай занятасці, паглядзець на свае адносіны з Хрыстом з адлегласці. А гэта зусім няпроста, таму што трэба яшчэ паспець адказаць на пытанні: "Хто з'яўляецца для мяне найвялікшым скарбам і сэнсам усяго жыцця?" і "Што мне перашкаджае падрыхтаваць сваё сэрца да сустрэчы з Хрыстом падчас свят Божага Нараджэння?".

На маю думку, кожны, хто менавіта такім чынам успрымае гэты перыяд, неаднойчы перажыў у душы пачуццё спусташэння і расчаравання ад усведамлення таго, што ўласнымі сіламі не атрымліваецца рэалізаваць усё запланаванае. **І калі надыходзіць 3-яя нядзеля, якую традыцыйна ў Касцёле называюць "Gaudete", што азначае "Радуйцеся", у веруючага чалавека могуць узнікнуць пытанні: "Як я магу радавацца, калі свята Божага Нараджэння набліжаецца, а мае адвэнтавыя пастановы ў чарговы раз не атрымліваецца ажыццявіць? Як магу радавацца, калі адчуваю неспакой у сэрцы адносна будучыні маёй сям'і, блізкіх? Як магу радавацца, калі шпіталі ў свеце перапоўнены, а грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне застаецца даволі напружанай?".**

Менавіта Нядзеля "Gaudete" дапамагае нам адказаць на гэтыя і іншыя пытанні, запрашаючы з адвагаю несці радасць і спакой туды, дзе ёсць падзелы, канфлікты, нянавісць, запрашаючы быць уважлівымі да патрэб тых, хто найбольш патрабуе падтрымкі і шукае надзеі на лепшае. Заклік "Радуйцеся!" нагадвае нам, што нязвыкла важнай і каштоўнай рысай кожнага свядомага хрысціяніна павінна быць радасць. Бо калі мы такія ж сумныя і напалоханыя, як многія, то хто тады будзе наследаваць нас, хто паверыць, што Бог можа справіцца з усялякай праблемай і занепакоенасцю? Калі штодзённыя размовы маюць выключна негатыўны характар, калі яны прасякнуты толькі крытыкай і асуджэннем – ніякай радасці, ніякай надзеі, ніякага даверу да Бога, толькі расчараванне – тады чым мы адрозніваемся ад няверуючых людзей?

Папа Францішак у адной са сваіх пропаведзей зазначыў: "Імкненне да шчасця – добрае жаданне, аднак унутранае адчуванне радасці – гэта штосьці большае. Гэта тое, што не павінна залежаць ад ніякіх знешніх абставін, якія могуць на нас нейкім чынам уплываць. Бо калі пастаянна імкнуцца быць шчаслівым любой цаной, то ў канчатковым выніку можна так і застацца на паверхні жыцця, ніколі не пагрузіўшыся глыбей".

Пагрузіцца глыбей і ўбачыць прычыны для бязмернай радасці; усвядоміць блізкасць Бога, які стаў падобным да нас і прымае нас такімі, якія ёсць; спыніцца ў імклівым рытме штодзённага жыцця і схіліцца над вялікай таямніцай любові Бога да кожнага чалавека – менавіта да гэтага запрашае III Нядзеля Адвэнту, якую ў гэтым годзе нам даводзіцца перажываць у складаных умовах і абставінах.



***Ала Зарэцкая,***
*парафія Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

Адвэнт – гэта час, напоўнены верай, малітвай і любоўю, калі мы чакаем нараджэння Езуса. Гэта добрая магчымасць задумацца пра сваё жыццё, стаць у праўдзе перад самім сабой, а таксама час перамен, надзеі і маленькіх цудаў. З уласнага досведу адзначу, што ў такі перыяд асаблівым чынам адчуваю блізкасць Бога, Яго благаслаўленне і дапамогу.

Яшчэ з дзяцінства ўзгадваю Адвэнт як час вельмі яскравых і радасных момантаў. Мы майстравалі ліхтарыкі і хадзілі на Рараты. Кожны дзень праводзілі ў нецярплівым чаканні Раства. Гэтыя эмоцыі і традыцыі мне заўсёды хацелася перадаць уласным дзецям – каб Адвэнт стаў для іх перыядам, праз які з натхненнем захочуць праходзіць.

Сёння ў нашай маладой сям'і маем уласныя звычаі: напрыклад, сваімі рукамі робім адвэнтавы вянок і каляндар. Дзеці выконваюць заданні з вялікай радасцю! Наша сям'я з'яўляецца таксама членам душпастырства "OPEN Families", якое мае добрую традыцыю – ладзіць акцыю "Калядное святло ў кожны дом". Яе сутнасць заключаецца ў перадачы з дома ў дом запісак з разважаннямі і пажаданнямі на Адвэнт і свечкі, якую пасля запальваюць і моляцца ўсёй сям'ёй.

Сёлета вельмі хочацца, каб Адвэнт прынёс у нашы дамы сапраўднае супакаенне і тую душэўную радасць, якую можа даць толькі Святы Дух. Вельмі хочацца, каб Езус нанова нарадзіўся ва ўсіх супольнасцях, бо пандэмія і грамадска-палітычны крызіс адбірае шмат сіл, і становіцца вельмі складана знаходзіць нагоды для пацехі.

**Думаю, каб спазнаць радасць Адвэнту, мы павінны пераасэнсаваць сваё жыццё і больш даверыцца Хрысту – аддаць Яму свае страхі, непаразуменні, хваробы і перажыванні з-за напружання ў краіне.** Зважаючы на апошняе, варта больш увагі надаваць бліжнім, рэагаваць на іх беды і патрэбы. Узаемадапамога ў гэты складаны час і стане той самай крыніцай радасці, якой усе прагнуць. Давайце станем апосталамі міру і згоды, аб'ядноўваючыся разам у малітве.



***Павел Цыронак,***
*парафія Святой Сям'і ў Лідзе*

Адвэнт заўсёды з'яўляецца для мяне радасным часам чакання надыходу свята Божага Нараджэння. Так было з дзяцінства. Нічога не змянілася.

Як прадпісвае вучэнне Касцёла, на пост абавязкова бяру пастановы. Апошнім часам яны ўсё больш звязаны з абмежаваннем у карыстанні інтэрнэтам, бо згодны, што ў нашым жыцці стала надта шмат інфармацыйнага шуму. Часам ён паглынае з галавой. **І Адвэнт – гэта добрая нагода, каб спыніцца, задумацца пра тое, як праходзіш праз сваю штодзённасць, ці не зашмат часу траціш упустую.**

Аднак, безумоўна, сёлетні Адвэнт будзе перажывацца па-іншаму. Гэта звязана і з пандэміяй, і з тым крызісам, у якім апынулася наша краіна. Асаблівы ўдар адчуў на сабе і Каталіцкі Касцёл у Беларусі. Ужо некалькі месяцаў у выгнанні знаходзіцца арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Таму лічу, што кожны каталік абавязаны яшчэ больш, чым раней, уключыцца ў змаганне за лепшыя часы: і малітвай, і сваімі ўчынкамі. Узмацніць барацьбу ў гэты Адвэнт планую і я: буду засяроджвацца на малітоўных практыках; шмат размаўляць з людзьмі, якія робяць выгляд, нібы ў грамадстве нічога не адбываецца; падтрымліваць тых, хто церпіць ганенне ці апынуўся за кратамі.



***Вікторыя Валюк,***
*парафія св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

Першае, што прыходзіць на думку, калі чуеш пра Адвэнт, – гэта перыяд радаснага чакання, які суправаджаецца Раратамі, адвэнтавым вянком, шопкай і абавязковым хэпі-эндам у выглядзе вігілійнай вячэры і калядных спеваў. Аднак калі пытацца не ў розуму, а ў сэрца… Адвэнт – гэта рэкалекцыі надзеі. Кожны раз індывідуальныя, асаблівыя і непаўторныя. Гэта час, калі любому падуладна змяніцца да лепшага і тым самым зрабіць крыху больш радасным і без таго шэры свет навокал.

Сёлета шэрых колераў стала болей – пандэмія каранавіруса і складаная грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне. Хочацца адразу адзначыць, што крызіс ніколі не ўзнікае на пустым месцы. Крывадушнасць і жорсткасць, якімі напоўнены апошнія месяцы, толькі адлюстроўваюць і пацвярджаюць духоўны крызіс нашай супольнасці, калі грэх становіцца чымсьці настолькі звыклым, што ў пэўны момант межы паміж дабром і злом сціраюцца і перастаюць існаваць.

**Толькі аднаму Богу вядома, праз якія цяжкасці і выпрабаванні мы павінны прайсці, каб зноў здабыць сэрца, здольнае любіць шчыра і па-сапраўднаму.** Як чалавек неабыякавы да таго, што адбываецца навокал, я думаю, што любое зло і беззаконне пад сілу перамагчы толькі любоўю, крыніцай якой з'яўляецца Езус. Ён гаворыць: "Штораз, калі вы па-сапраўднаму, безумоўна, цалкам даверыце справу Мне, гэта дасць жаданы вынік і вырашыць любую хваравітую сітуацыю" (з акту прысвячэння сябе Езусу, кс. Далінда Руола).

У Адвэнце буду старацца знайсці адказ на наступнае пытанне: "Што я зрабіла, каб пазбегнуць існуючага крызісу, і наколькі маё сэрца гатова змяніцца?". Менавіта таму мае рэкалекцыі надзеі будуць сканцэнтраваны на даверы і пошуку Божай волі ў кожным дзеянні, у кожным пачутым слове або здзейсненым учынку.

Адвэнт – сапраўды выдатная магчымасць у надзеі і спадзяванні на Госпада сумленна зазірнуць у самыя цёмныя куткі сваёй душы, каб дазволіць Дзіцятку Езус нарадзіцца ў сэрцы. І ў гэтым крыецца ўся радасць перадкаляднага перыяду.

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Перанесена дата дыяцэзіяльнага СДМ

Папа Францішак перанёс святкаванне Сусветнага дня моладзі на дыяцэзіяльным узроўні з Пальмовай нядзелі на Ўрачыстасць Пана Нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.

Пантыфік паведаміў аб сваім рашэнні падчас цырымоніі перадачы сімвалаў Сусветных дзён моладзі, якая адбылася ў базіліцы св. Пятра ў Ватыкане. Пантыфік зазначыў, што ў цэнтры ўвагі будзе заставацца таямніца Езуса Хрыста, Адкупіцеля чалавека, як гэта заўсёды падкрэсліваў заснавальнік і апякун Сусветных дзён моладзі св. Ян Павел II.

### Хутка новыя беатыфікацыі

Папа Францішак упаўнаважыў Кангрэгацыю па справах Кананізацыі абнародаваць дэкрэты, якія датычацца беатыфікацыйных працэсаў.

Папа ўхваліў дэкрэт аб зацвярджэнні цуду, здзейсненага праз заступніцтва Слугі Божага кс. Марыа Чычэры з Італіі. Таксама асобным дэкрэтам была пацверджана мучаніцкая смерць Слуг Божых кс. Хуана Эліаса Мэдзіны і 126-ці яго паплечнікаў, святароў, манахаў і свецкіх вернікаў з Іспаніі, забітых з нянавісці да веры.

Іншыя дэкрэты пацвярджаюць гераічнасць цнотаў духоўных і кансэкраваных асоб: бп. Фартуната Марыі Фарына, кс. Альфонса Угаліні, с. Францэскі Цыкі, капуцынкі-кларыскі, с. Марыі Каралы Чэкін з Кангрэгацыі Сясцёр св. Юзафа Бенедыкта Каталенга, с. Францэскі Джанэт з Кангрэгацыі Дачок Марыі Беззаганнай (Італія), а таксама кс. Андрэса Манхон і Манхона (Іспанія).

### Елка са Славеніі і яслі з Італіі

Па традыцыі ватыканскую плошчу св. Пятра ўпрыгожвае святочная кампазіцыя з елкі і ясляў.

Елка прыбыла са славенскай вобласці Качэўе, на 90% пакрытай лясным масівам. Вышыня каляднага дрэва складае 28 метраў, максімальны дыяметр ствала – 70 сантыметраў. Яслі Божага Нараджэння прывезены з італьянскага рэгіёна Абруца, які з XVI стагоддзя славіцца сваімі керамічнымі вырабамі. Фігуры з гэтага крохкага матэрыялу, вышынёй крыху больш за натуральны рост чалавека, размешчаны на пастаменце плошчай у 125 м².

Цырымонія інаўгурацыі святочнай кампазіцыі адбудзецца вечарам 11 снежня. Калядные дрэва і яслі застануцца на плошчы св. Пятра да заканчэння літургічнага перыяду Божага Нараджэння, які супадае са святам Хросту Пана, што прыпадае на 10 студзеня 2021 года.

### Малітоўныя інтэнцыі на снежань

**паўсюдная**

Молімся, каб нашы асабістыя адносіны з Езусам Хрыстом жывіліся Божым словам і малітвай.

**дыяцэзіяльная**

Молімся ў інтэнцыі бацькоў, каб прынялі дар новага жыцця.

# ПАПАЎНЕННЕ Ў ОРДЭНЕ ФРАНЦЫСКАНЦАЎ



Супольнасць канвентуальных францысканцаў, якія служаць у Беларусі

працяг са с. 1

Кс. Юрый Марціновіч

Манаскія абяцанні жыць у чыстасці, убостве і паслухмянасці бр. Віктар прынёс у прысутнасці а. Антонія Пажэцкага OFMConv, дэлегата правінцыяльнай дэлегатуры ў Беларусі, што належыць да правінцыі Маці Божай Беззаганнай у Варшаве (Польшча). Святар моцаю ўдзеленай яму ўлады абяцаў бр. Віктару жыццё вечнае, калі той стрымае складзеныя шлюбы.

У сувязі са складанай эпідэміялагічнай сітуацыяй, ва ўрачыстасці прыняла ўдзел абмежаваная колькасць гасцей. Падтрымаць бр. Віктара сабраліся сабраты з розных францысканскіх супольнасцей Беларусі.

Францысканец просіць памятаць аб ім у малітве, каб годна і верна служыў Богу на абраным манаскім шляху.

***Бр. Віктар Мялешка нарадзіўся ў 1994 годзе. Распачаў свой манаскі шлях адразу пасля заканчэння сярэдняй школы ў 2012 годзе. Цяпер бр. Віктар вучыцца на 6 курсе Вышэйшай францысканскай семінарыі ў Лодзі (Польшча) і рыхтуецца да прыняцця дыяканскага пасвячэння.***

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПОЛЬШЧА.** Папам Францішкам заснавана Ольштын-Гданьская епархія візантыйска-ўкраінскага абраду. Для яе былі аддзелены некаторыя тэрыторыі Пшэмысльска-Варшаўскай архіепархіі і Вроцлаўска-Гданьскай епархіі. Першым біскупам прызначаны а. Аркадзь Траханоўскі. Новая епархія займае 90 075 км², налічвае 43 парафіі і душпастырскія цэнтры. Катэдрай вызначана царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы ў Ольштыне.

**КІТАЙ.** Абноўлена Часовае пагадненне, падпісанае паміж Апостальскай Сталіцай і Кітайскай Народнай Рэспублікай. Яно датычыцца прызначэння біскупаў і не закранае прававы статус Каталіцкага Касцёла ў краіне і адносіны паміж мясцовым духавенствам і ўладамі. Гэта мае вельмі важнае значэнне, паколькі раней маглі служыць толькі біскупы, выбраныя падкантрольнай рэжыму Патрыятычнай асацыяцыяй кітайскіх католікаў, без ведама і згоды Папы.

**МАЗАМБІК.** У горадзе Нангалола ў правінцыі Дэльгада ісламскія тэрарысты знішчылі адну з найстарэйшых каталіцкіх місій у краіне. Джыхадысты ўчынілі генацыд у адносінах да мясцовых хрысціян. Уздоўж дарог можна ўбачыць мноства цел, якія ўжо раскладаюцца. Шмат каму была адсечана галава, а дамы спалены і разбураны. Паводле паведамленняў мазамбікскіх СМІ, з-за нападаў джыхадыстаў, звязаных з г. зв. Ісламскай дзяржавай, ужо больш за паўмільёна чалавек вымушана пакінулі свае дамы ў правінцыі Каба Дэльгада (у асноўным, хрысціяне).

**ЗША.** У 2021 годзе павінна распачаць працу першая ў свеце хрысціянская авіякампанія “Judah 1”. Яна ўжо мае ліцэнзію Федэральнай авіяцыйнай адміністрацыі ЗША (FAA), неабходную для паветранага руху. Авіякампанія была створана з мэтай падтрымкі місіянераў і рэалізацыі ініцыятыў дапамогі ў ліквідацыі наступстваў стыхійных бедстваў. За квіткі ў самалёце неабходна будзе плаціць, але правоз любога багажу бясплатны. Гэта робіць авіякампанію канкурэнтаздольнай на рынку.

**АЎСТРЫЯ.** Пандэмія не перашкодзіла працягу традыцыі запальваць Бэтлеемскае святло міру. Ініцыятарам акцыі з’яўляецца радыё ORF з Верхняй Аўстрыі. Святло з аліўкавай лямпы ў Гроце Нараджэння Хрыстова ўжо дастаўлена ў краіну на самалёце. Пакуль што невядома, як сёлета “знак міру з Бэтлеема” будзе перадавацца ў розныя краіны Еўропы, а таксама ў ЗША і некалькі краін Лацінскай Амерыкі. Перадача Святла міру мае адбыцца пад лозунгам “Святло служэння”.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ПАЧУЦЬ СМАК УРАЧЫСТАСЦІ



**Вось мы ўжо і пераступілі парог Адвэнту. Кожны чалавек успрымае і перажывае гэты перыяд па-рознаму. Для кагосьці ён асацыіруецца з нейкім цяжарам, які трэба пранесці на сваіх плячах на працягу чатырох тыдняў, а хтосьці ўжо вырашыў, якую пастанову бярэ на Адвэнт. Хтосьці любіць яго, а хтосьці чакае, каб хутчэй скончыўся…**

Кл. Андрэй Юхнік

Удзяцінстве мне не падабаўся гэты час. Але паступова я ўсё больш і больш пачаў разумець сэнс Адвэнту і яго значэнне. Зацікавіўся адпаведнай тэмай на катэхезах, шукаў інфармацыю аб традыцыях перажывання гэтага перыяду ў інтэрнэце. З кожным годам Адвэнт станавіўся для мяне ўсё больш любімым часам, якога ўжо пачынаў чакаць пасля ўрачыстасці Усіх Святых.

Адвэнт насычае наша жыццё чымсьці новым, а таксама запрашае засяродзіцца над таямніцай Нараджэння Збаўцы і Яго другога прыйсця ў хвале. Атмасфера Адвэнту спрыяе гэтаму: вянок з 4-ма свечкамі, пустыя яслі. А таксама г. зв. Рараты – св. Імша ў гонар Маці Божай, з якой мы разам чуваем і чакаем нашага Пана на зямлі. І прыгожая літургія з песнямі… Ці ж не прымушае гэта трошкі памарыць аб будучых святах? Ці ж не дадае такое чаканне радасці і надзеі ў цяжкіх абставінах жыцця?

**Нам заўсёды цяжка прыняць тое, чаго да канца не разумеем. Але калі паглыбляемся ў сутнасць рэчаў, ужо глядзім на ўсё па-іншаму.**

Святло ад лампіёнаў сярод цемры ў гэтым годзе, як ніколі, будзе набіраць большае значэнне і насычацца сімвалізмам. Увесь свет апошнім часам знаходзіцца ў цяжкай сітуацыі, звязанай з пандэміяй каранавіруса. І надыходзячыя святы будуць ужо не такімі, як раней. Але ўсё гэта не павінна адвярнуць ад Бога. Не губляючы надзеі, нашы сэрцы павінны свяціць, як лампіёны падчас Раратаў, і, злучаючыся разам са святлом іншых людзей, асвятляць увесь агорнуты цемрай свет ды несці радасць бліжнім. Усяму калісьці прыходзіць канец, у тым ліку і няшчасцям.

Але каб сэрца свяціла, трэба мець чыстую душу. Вядома, мы ўсе не святыя, і здараецца так, што сваімі паводзінамі абражаем Бога, тым самым забруджваючы сваю душу. Аднак добра ведаем, як яе ачысціць. Няма лепшага лякарства для душы, чым сакраманты. А дакладней, чым сакрамант пакаяння, які ачышчае ад грахоў і вяртае стан Божага дзіцяці. Споведзь і Эўхарыстыя з’яўляюцца неад’емнымі сродкамі адвэнтавага прыгатавання да сапраўднай сустрэчы з нованароджаным Езусам.

Немалаважнай часткай падрыхтоўкі да Божага Нараджэння з’яўляецца адвэнтавая пастанова. У руціне паўсядзённасці мы не раз паддаёмся цячэнню жыцця, калі не хочацца ісці наперад або скокнуць вышэй сваёй планкі. У такі момант пастанова будзе добрым сродкам узварушыцца.

Вельмі важна не праспаць гэты час, не махнуць рукой, сказаўшы: “Як будзе, так будзе. Навошта браць нейкую пастанову, калі ўсё роўна нічога не зменіцца”. Можа, і так. Але не трэба тады браць непад’ёмныя пастановы! Каб вытрываць, неабходна аб’ектыўна ацэньваць свае магчымасці і здольнасці. У гэтай справе вызначальным з’яўляецца старанне. Можна не “датрымаць” пастанову, але не трэба кідаць справу на палове шляху. “Не атрымалася сёння – буду старацца заўтра”, – менавіта такім дэвізам варта кіравацца.

Божае Нараджэнне, як і кожная важная падзея, патрабуе сур’ёзнага падыходу. Я не магу разлічваць на тое, што сёлета на святы жыццё кардынальна зменіцца, калі павярхоўна і несур’ёзна падыду да адвэнтавай падрыхтоўкі. Мой тата заўсёды казаў, што “прыгатаванне павінна быць прыемней, чым само свята”. Калі ў падрыхтоўку ўкладваеш сэрца, адчуваеш сапраўдны смак урачыстасці.

Хачу пажадаць усім Вам, дарагія Чытачы, добрага і плённага Адвэнту, каб у вігілійную ноч маленькі Езус нарадзіўся не толькі ў бэтлеемскіх яслях, але і ў Вашых сэрцах.

# МЫ ПАВІННЫ НЕСЦІ ЦЯЖАР АДЗІН АДНАГО, ПРАЯЎЛЯЦЬ УЗАЕМНУЮ ПАДТРЫМКУ І САЛІДАРНАСЦЬ

***Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі скіравала да вернікаў і людзей добрай волі зварот у сувязі з напружанай сітуацыяй у краіне.***

Наша Бацькаўшчына Беларусь ужо чацвёрты месяц знаходзіцца ў нябачаным дагэтуль грамадска-палітычным крызісе, які, на жаль, паглыбляецца. Насілле не спыняецца, надалей праліваецца кроў, грамадства падзелена. Гэта не прадвяшчае шчаслівай будучыні, бо, як казаў Хрыстос, дом, падзелены сам у сабе, не выстаіць (параўн. Мц 12, 25). Цяжка паверыць, што такое адбываецца ў нашай міралюбнай краіне, вядомай сваёй талерантнасцю і згодай паміж людзьмі розных веравызнанняў і нацыянальнасцей.

Каталіцкі Касцёл, кіруючыся Евангеллем і пабудаваным на ім сацыяльным вучэннем, выказвацца супраць насілля, беззаконня, несправядлівасці ды няпраўды і асуджае іх. Касцёл заклікае да мірнага вырашэння ўзніклых праблем шляхам дыялогу ў духу любові да Бога і бліжняга, з захаваннем Божых і чалавечых законаў.

Мы, каталіцкія біскупы Беларусі, далучаемся да звароту папы Францішка, скіраванага пасля малітвы "Анёл Пански" 13 верасня 2020 года да дзяржаўных улад. У ім Пантыфік заклікаў прыслухацца да голасу суграмадзян і пайсці насустрач іх законным імкненням, забяспечваючы поўную павагу да правоў чалавека і грамадзянскай свабоды.

Пры гэтым мы хочам падкрэсліць, што галоўная мэта Касцёла – абвяшчаць Евангелле дзеля пабудовы Божага Валадарства, якое не кіруецца прынцыпамі гэтага свету і не прэтэндуе на зямную ўладу. Таму Касцёл не выконвае дзяржаўных функцый і не можа нікім выкарыстоўвацца ў палітычных мэтах.

У гэты лёсавызначальны час гісторыі нашай Бацькаўшчыны, як навучаў св. апостал Павел, мы павінны несці цяжар адзін аднаго (параўн. Гал 6, 2), аказваць узаемную падтрымку і салідарнасць дзеля будавання згуртаванай, а не падзеленай Беларусі.

Звяртаемся да католікаў і ўсіх людзей добрай волі з заклікам працягваць узносіць свае малітвы ў інтэнцыі хуткага і мірнага вырашэння крызісу, бо бласлаўлёныя міратворцы і тыя, хто імкнецца да справядлівасці, як гаворыць Хрыстос. Няхай добра пераможа зло.

Мір і дабро табе, наша Бацькаўшчына Беларусь!



*Каталіцкія біскупы Беларусі*
*Мінск, 25 лістапада 2020 г.*

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА

# ПАЗБАЎЛЯЕМСЯ АД ПРАЗМЕРНАГА І НЕАБДУМАНАГА СПАЖЫВАННЯ



*Алена Майсюк*

працяг са с. 1

**Як шмат цывілізацыя стварыла рэчаў! Імкненне зарабіць на скваплівасці і неўмеркаванасці ў ежы і піцці неўсвядомленага чалавека прыводзіць да разбурэння нашага адзінага на ўсіх дома – планеты Зямля. Што можам зрабіць, захаваўшы ў сабе цноту памяркоўнасці і беражлівасці, а разам з тым, усё, што нас акружае?**







### НУЛЬ АДХОДАЎ (ZERO WASTE)

Мэта ідэі "Нуль адходаў" – скараціць аб'ём смецця, які трапляе на звалкі і заводы для спальвання смецця.

• ***Адмоўцеся ад непатрэбных рэчаў.*** Каб менш смеціць, трэба менш набываць. Варта зрабіць паходы ў краму абдуманымі. Для гэтага складайце спісы і ўзважвайце рашэнні аб неабходнасці пакупкі. Навучыцеся гаварыць "не" ўсяму бескарыснаму, занадта таннаму і няякаснаму. Напрыклад, бясплатны пакет выкарыстоўваецца толькі кароткі час для таго, каб данесці тавар дадому, а раскладаецца на сметніку 100 гадоў. Можна карыстацца шматразовымі фасовачнымі мяшочкамі. На рынку ахвотна расфасуюць рассыпны тавар у прынесеную шклянку.

**Пытайцеся сябе: "Як мне стаць усвядомленым спажыўцом? Што магу для гэтага зрабіць?". І адказ заўсёды прыйдзе ў патрэбны момант.**

• ***Паменшыце спажыванне.*** Не ўсё патрэбна набываць. Штосьці можна браць у арэнду, выкарыстоўваць сумесна з кімсьці. Варта паразважаць, як можна карыстацца тым, што ўжо маеце.

• ***Выкарыстоўвайце паўторна і рамантуйце.*** Абыходзьцеся з рэчамі акуратна, каб яны праслужылі даўжэй. Калі нешта сапсавалася, старайцеся даць другі шанс: адрамантаваць або перарабіць. Працэсператварэння старых рэчаў у розныя прадметы інтэр'ера і ўпрыгожанні можа стаць выдатным заняткам з дзецьмі.

• ***Здавайце на перапрацоўку.*** Сартуйце шкло, макулатуру, пластык у спецыяльныя кантэйнеры або здавайце ў пункты прыёму другаснай сыравіны. Асобна ўтылізуюцца лямпачкі, батарэйкі, акумулятары і іншыя небяспечныя адходы.

• ***Рабіце з кухонных ачысткаў угнаенні для хатніх раслін або агарода.*** Сартуйце арганічныя адходы ад іншага смецця і складвайце ў кантэйнеры. Мясное, малочнае і цытрусавыя туды нельга класці. Пах ад чыстай арганікі вельмі прыемны.

Кожны з прапанаваных прынцыпаў уключае шмат дробных крокаў, якія ўваходзяць у звычку паступова, каб стаць у радасць. Няма патрабавання адмаўляцца ад усяго і адразу, але пры кожным спажывецкім дзеянні варта задумацца: а ці не шкодзіць гэта мне і прыродзе? "Нуль адходаў" не супраць камфорту, але супраць лішняга.

### ЗМЯНІЦЬ ПАЎСЯДЗЁННЫЯ ЗВЫЧКІ ВЕЛЬМІ ЛЁГКА!

Загружайце пральную машыну поўнасцю. Адключайце электрапрыборы з разеткі, калі імі не карыстаецеся. Купляйце энергазберагальныя лямпачкі. Офісную паперу выкарыстоўвайце з двух бакоў.

Дзяліцеся тым, чым не карыстаецеся самі. Калі рэч доўга ляжыць без справы, прапануйце яе таму, каму можа быць патрэбна. За сімвалічную плату або бясплатна перадавайце на форумах у інтэрнэце. Вопратку і абутак прыносьце на дабрачыннасць ці аддавайце на фрымаркеце. Кнігамі абменьвайцеся на спецыяльных паліцах (буккросінг) або аднясіце ў бібліятэку.

Надыходзіць час перадсвяточных пакупак – самы лепшы час, каб задумацца аб апраўданасці набыцця сувеніраў. Ці так яны патрэбны? Можа, самому намаляваць паштоўку або аддаць у новыя рукі тое, чым не карыстаемся, з цікавай легендай пра рэч, як раней перадаваліся сямейныя каштоўнасці? Зрабіце такой каштоўнасцю прынцыпы "Нуль адходаў"!

У снежні адзначаецца **Міжнародны дзень барацьбы з пестыцыдамі**. Для павышэння ўраджайнасці выкарыстоўваюцца штучна створаныя злучэнні. Яны даюць кароткачасовы эфект у сельскай гаспадарцы, затое працяглы час аказваюць пагібельны ўплыў на ваду, урадлівасць глеб і ўсе жывыя арганізмы. Хімічнае ўздзеянне вядзе да розных мутацый і захворванняў у людзей і жывёл, да парушэння працы рэпрадуктыўнай і гармональнай сістэм, імуннага статусу, да анкалагічных захворванняў і прыроджаных дэфектаў. Насамрэч, у прыродзе ўсё ўладкавана гарманічна: трэба толькі ўбачыць, як сама зямля здольна даваць велізарныя ўраджаі.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЧАМУ НЕЛЬГА БІЦЬ ДЗІЦЯ?



Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

працяг са с. 1

Напэўна, большасць бацькоў скажуць, што маленькі пляскач "не нашкодзіць" дзіцяці, а наадварот, дапаможа ў выхаванні. Знойдуцца нават тыя, хто ўпэўнены, што дзіця часам заслугоўвае папругі. Некаторыя дарослыя, тлумачачы свае "правільныя" паводзіны, гавораць, што ўдарылі з любоўю.

Безумоўна, не ўсім спадабаецца мой адказ, бо хтосьці падкрэсліць, што святар не ведае, што значыць выхоўваць дзяцей кожны дзень, што "бацькі нас білі, і мы выраслі добрымі людзьмі" і да т. п. Так, згодны, што сённяшняе малодшае пакаленне значна адрозніваецца ад пакалення, якое было, напрыклад, 10-20 гадоў таму. Аднак адказ адназначны – біць дзяцей нельга ні пры якіх абставінах і ніякім чынам. Нельга забывацца, што біццё (нават лёгкі пляскач) з'яўляецца насіллем, а гвалт заўсёды спараджае гвалт.

Трэба памятаць – і гэта вельмі важна – што ахвяры збівання становяцца пазней тымі, хто лягчэй за ўсё возьмецца біць іншых. Бітае дзіця вучыцца, што калі мяне збіваюць, то і я магу біць іншых, напрыклад, слабейшых. Для такога чалавека гвалт успрымаецца як прымальны і эфектыўны спосаб рэгулявання адносін з іншымі людзьмі. З часам ён уключае збіванне ў свой рэпертуар паводзін.

Я сутыкнуўся з вялікай колькасцю даследаванняў, дзе аўтары адзначаюць, што дзеці, якія церпяць біццё і здзекі бацькоў, становяцца найбольш агрэсіўнымі ў адносінах да аднагодкаў, жывёл, навакольных рэчаў і г. д. Таксама амаль не выклікае сумненняў, што ў будучыні яны будуць біць і сваіх дзяцей.

Біццё заўсёды спараджае бунт і нянавісць, а лупцуючы і запалохваючы дзіця, мы знішчаем яго самаацэнку. Такое дзіця можа закрыцца ад іншых людзей, маючы поўнае непрыязнасці стаўленне нават да сваіх блізкіх.

Перш за ўсё, калі бацькі хочуць пакараць сына ці дачку, яны павінны ўтаймавацца і, па магчымасці, суцішыць свае эмоцыі, думаючы пра тое, што перадаць і як навучыць дзіця быць паслухмяным. Вельмі добры метад – замест таго, каб падняць руку, проста абняць ці прытрымаць дзіця і пачакаць, пакуль супакоіцца. Пасля такіх абдымкаў бацькі самі знойдуць спакой і абгрунтавана змогуць ацаніць сітуацыю. Але і дзіця таксама абавязана слухацца старэйшых. Бацькі, школа і грамадства павінны нагадваць яму пра гэта.

Да кожнага дзіцяці патрэбны падыход і адрозныя выхаваўчыя метады, дзякуючы якім можна нешта растлумачыць і разлічваць на яго супрацоўніцтва. З другога боку, сёння шмат гавораць пра выхаванне без стрэсаў і яго нізкую эфектыўнасць, а таксама пра вялікую бездапаможнасць бацькоў перад сваімі дзецьмі. Таму няхай менавіта малітва будзе падмогай у добрым выхаванні будучага пакалення.

# НАЙЛЕПШЫ БАНК – МЕЦЬ УСЁ Ў БОГА

С. Зоя Дамброўская

Калі я чую слова "ўбоства", у галаве ўзнікаюць два вобразы. Адзін з іх – гэта такое ўбоства, калі чалавек мае ўсё ў Бога і спадзяецца на Яго. Калі нават у самай вялікай патрэбе ён не губляе душэўнага супакою і ўнутранай радасці, калі здольны дзяліцца з іншымі, хаця сам мае вельмі мала. Тады я бачу ўсмешлівыя твары сапраўды бедных людзей – у розных краінах Афрыкі, Азіі, у Індыі, Сальвадоры, у малюсенькіх вёсках Сібіры, ва ўсіх тых месцах, дзе ў людзей няма самага неабходнага. І ў той жа час нейкім незразумелым чынам яны застаюцца спакойнымі, шчаслівымі, радаснымі і здольнымі гэтай радасцю дзяліцца.



Святы Айцец Францішак моліцца за ўбогіх

Другі вобраз, які атаясамліваецца ў мяне з убоствам, выглядае зусім інакш. Ключавым тут з'яўляецца недахоп – адсутнасць радасці, спакою, надзеі, любові, цэласнасці. Гэта такі стан, калі чалавек мае шмат матэрыяльных рэчаў, але яму ўсё роўна чагосьці не хапае, калі ўвесь час імкнецца да навейшага, лепшага, больш сучаснага, да таго, што мае запоўніць сабой найбольшы недахоп яго жыцця – унутраную пустэчу. Чалавек пастаянна спрабуе засыпаць гэтую прорву: новай вопраткай, прыстасаваннямі, магчымасцямі, новым моцным досведам, сустрэчамі, вечарынамі, званнямі, дыпломамі, дасягненнямі... Але не зможа. Прорву ў сэрцы немагчыма запоўніць.

Я думаю, час пандэміі выкрывае наша ўбоства, паказвае, чым напаўняем сваё жыццё. Абмежаванні, якія раздражняюць і стамляюць, выдатна паказваюць наш духоўны стан і тое, дзе маем найвялікшыя скарбы, што ці хто нас сапраўды хвалюе. Чаму можам навучыцца ў самых бедных? Мы, якія, напэўна, ніколі не пакутавалі ад немагчымасці задаволіць першасныя патрэбы. Гэта не азначае, што прымяншаю пакуты людзей з г. зв. "багатых" краін. Я проста ўвесь час пытаюся ў сябе: з-за чаго тыя ўбогія людзі такія шчаслівыя, а тым "заможным" пастаянна нечага не хапае? Чаму ў бедных вёсках госць ніколі не застанецца галодным і без даху над галавой, а ў багатых мегаполісах можна памерці з голаду і холаду? Падарожнік Рамуальд Каперскі гэта перажыў і прыгожа апісаў у сваёй кнізе "Паядынак з Сібірру".

Што такое сапраўднае ўбоства і сапраўднае багацце? Асабісты досвед карантыну паказаў, наколькі цэнныя для мяне іншыя людзі, наколькі вялікім багаццем з'яўляецца магчымасць непасрэдна ўдзельнічаць у Эўхарыстыі і прымаць Езуса ў сваё сэрца. Колькі радасці выклікае нават кароценькі інтарэс да цябе іншых падчас ізаляцыі: чыйсьці тэлефонны званок, СМС, зычлівае пытанне, як сябе адчуваю і ці патрабую чаго-небудзь. Я нанова адкрыла, што найбольшым скарбам для мяне з'яўляецца любоў, адносіны – з Богам і з бліжнімі. І што на самой справе не трэба шмат, каб праявіць любоў, каб падтрымліваць гэтыя адносіны. Часам адно добрае слова, зацікаўленасць, усмешка, размова даюць столькі спакою і радасці... Магчыма, я ніколі б не адчула гэтага так выразна, калі б не цяжкі час ізаляцыі. Тая радасць, калі можна проста выйсці з пакоя, прайсціся па вуліцы, убачыць людзей, дамы, прыгожыя дрэвы і неба, апаўшае лісце. Цешыцца самымі простымі рэчамі і атрымліваць ад іх асалоду. Раптам убачыць, наколькі яны цудоўныя і не такія відавочныя, як здавалася раней.

Я лічу, што іменна гэтым могуць адарыць нас бедныя людзі – радасцю жыцця, удзячнасцю за кожную дробязь, прыгажосцю звычайных рэчаў. Калі ж мы можам даць ім прысутнасць, падтрымку і матэрыяльную дапамогу. Хіба гэта не эфектыўны абмен?

Чаму ўбогія могуць так многім падзяліцца? Бо ўсё маюць у Бога. Таму гэта нагадвае нам, што таксама можам быць такімі ўбогімі. Справа не ў матэрыяльных рэчах, а ў тым, каб свае скарбы змясціць у лепшым "банку" – у Бога! Бо "дзе скарб ваш, там будзе і сэрца вашае" (Лк 12, 34).

Ёсць вельмі простыя спосаб даведацца, якое маё ўбоства. Дастаткова спытацца ў сябе: што раблю часцей, дзякую ці скарджуся? Тыя, хто паклаў усё ў Бога, здольны быць удзячныя за кожную дробязь. А тыя, хто пастаянна адчувае недахоп, хаця і збіраюць усё больш і больш розных скарбаў, не могуць быць удзячнымі, але пастаянна скардзяцца на свае недахопы.

У няпростыя часы пандэміі, войнаў, узрушэнняў, беспарадкаў, цяжкасцей і трывог мы бачым, як спраўджваюцца словы Езуса: "Будуць знакі на сонцы, месяцы і зорках, а на зямлі – трывога народаў і замяшанне ад гулу марскога хвалявання. Людзі будуць млець ад страху і ад чакання таго, што прыйдзе на свет, бо пахіснуцца нябесныя моцы" (Лк 21, 25–26). Гэтыя словы нам вядомы. Здаецца толькі, што часта забываемся, як Езус заканчвае сваё выказванне: "Калі ж гэта пачне адбывацца, тады выпрастайцеся і падыміце галовы вашыя, бо набліжаецца вашае адкупленне" (Лк 21, 28).

Езус дае чалавеку надзею нават у самыя цяжкія і цёмныя хвіліны. Магчыма, менавіта таму патрэбныя, каб у цемры мы маглі ўбачыць Яго святло, у сваіх недахопах – багацце, якое падрыхтаваў Езус: не матэрыяльнае, а духоўнае, якое ўтрымліваецца ў скарбах любові, прабачэння, радасці, прысутнасці, шчасця. Дык выпрастайцеся і падніміце галовы.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## У чым розніца паміж бояззю Божай як дарам Святога Духа і страхам перад Богам?

ave-maria.by

*Апостал Павел, згодна з біблейскай традыцыяй, атаясамлівае цноту боязі Божай з дарам набожнасці. Ён сцвярджае: тым, што найбольш развівае набожнасць і боязь Божую, з'яўляецца вернасць чыстаму сумленню (параўн. 1 Цім 1, 5–18; 4, 2). Таксама і клопат пра збаўленне патрабуе руплівасці, поўнай "боязі і трымцення", дзякуючы чаму Бог станецца ў нас "здзяйсняльнікам і жадання, і дзеяння" (параўн. Флп 2, 12–13).*

*У сувязі з магчымай негатыўнай інтэрпрэтацыяй дару боязі Божай, асобна выдзяляем і адрозніваем адмоўную пastаву, якую называем "страхам Божым". Страх з'яўляецца перажываннем стану нежадання таго, што можа здарыцца, і ўспрымаецца як зло.*

*Розніца паміж бояззю Бога і страхам перад Ім – гэта як розніца паміж пазітыўным бокам паслухмянасці і яе негатыўнай пародыяй. У першым выпадку мы слухаемся, бо даваряем мудрасці і любові. Ведаем, што калі будзем слухацца, то такім чынам пацвердзім наш давер і любоў да Айца, прынясём Яму радасць, а самі будзем хутка ўзрастаць, апраўдваючы Яго спадзяванні.*

*У выпадку негатыўнай (фасаднай) паслухмянасці пераважае крывадушная знешняя імітацыя пакорлівага выканання загадаў. У сэрцы такая асоба адчувае сябе прыніжанай, зняволенай, вымушанай падпарадкоўвацца незразумелым распараджэнням, якія здаюцца бессэнсоўнымі. Чалавек баіцца і выконвае волю Бога толькі таму, каб не быць пакараным.*

*Як бачым, на адну і тую ж асобу, на адны і тыя ж распараджэнні два розных чалавекі могуць рэагаваць дыяметральна супрацьлегла: адзін – з любоўю і павагай (бояззю), а другі – са страху быць пакараным і са злосцю на сваю слабасць. Для першага Бог – гэта Любоў, для другога – Прыгнятальнік. Менавіта ад вобразу Бога ў нашай свядомасці залежаць адносіны да Яго: будзе гэта боязная павага ці рабскі страх.*

# СКАРБЫ МАЁЙ СЯМ'І

**Божае Нараджэнне ў нашай сям'і з'яўляецца, напэўна, самым чаканым з усіх свят. Традыцый з ім звязана нямала. Большасць з іх перадаюцца з пакалення ў пакаленне.**

Алена Стрыга



Рараты ў гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля

Рыхтавацца да свята пачынаем загадзя. У пачатку снежня распачынаецца Адвэнт – г. зв. час чакання, які трывае да Вігіліі. У гэты перыяд мы ўсёй сям'ёй удзельнічаем у Раратах. Памятаю, як дзяўчынкай я вельмі любіла Рараты, якія асаблівым чынам хвалявалі сэрца чароўным харастворам і таямніцай чакання нечага вялікага. З якім творчым запалам я рыхтавала кожны год ліхтарыкі, упрыгожвала іх малюнкамі! А цяпер назіраю, як мае дзеці робяць гэтаксама, і разумею, што змагла перадаць ім кавалачак свайго маленькага шчасця.

Асаблівым чынам адбываюцца прыгатаванні ў хаце. На працягу снежня ўвесь дом старанна прыбіраецца. У кожным пакоі рыхтуюцца адметныя ўпрыгожанні. Вокны аздабляюцца выцінанкамі (выкананымі, дарэчы, малодшымі членамі сям'і). У куце каля абраза, на століку размяшчаецца сасновы вянок з чатырма свечкамі. А побач з ім ставіцца невялікі збанок, у які штодня кожны з нас кладзе паперку з добрымі ўчынкамі. Гэта дар сэрца для Езуса, бо не можа быць дня нараджэння без падарункаў!

За некалькі дзён да свята ў нашай хаце збіраюцца ўсе дарослыя жанчыны сям'і (мая матуля і сёстры), і пачынае гатавацца самая смачная страва – вушкі. Гэта маленькія піражкі з начыннем з маку, якія робяцца выключна на Божае Нараджэнне. Рэцэпт захоўваецца ў нашай сям'і некалькі пакаленняў і перадаецца старэйшай дзяўчыне з роду. Мне пераказала яго бабуля. Рэцэпт мае свае таямніцы, таму цеста заўсёды атрымліваецца пышным, а вушкі – вельмі смачнымі.

Калісьці мы ўсе збіраліся ў бабулі: рабілі вушкі, спявалі песні. Пяклі іх заўсёды шмат, каб кожны мог прынесці дадому вялікі кошык. Сам працэс займаў амаль цэлы дзень. Бабуля казала, што трэба старанна выконваць усе дзеянні, інакш нічога не атрымаецца. Напрыклад, нельга было прыступаць да гатавання з дрэнным настроем, бо тады цеста не падымецца добра або вушкі раскрыюцца падчас смажання і ўвесь мак выцячэ.

Цеста заўсёды бласлаўлялася, а затым старанна вымешвалася. Цікава, што раней гэта рабіў мой дзядуля (а цяпер – мой муж). Можа, таму цеста было такое пышнае. А яшчэ важнай часткай прыгатавання быў падлік колькасці вушак, якая заўсёды параўноўвалася з папярэднім годам. Затым рабілася гарбата, і кожная з гаспадынь частавалася прысмакам. Астатнія вушкі раскладваліся па кошыках і адносіліся ў халоднае месца, дзе захоўваліся да Вігіліі.

Напярэдадні свята – 24 снежня – гаспадар па традыцыі прыносіць елачку і дастае з паліцы скрынкі з цацкамі. Кожную мы вымаем з вялікай пашанай, уважліва разглядаем, прыпамінаем людзей і гісторыі, звязаныя з імі. І толькі пасля акуратна вешаем цацкі на елку. А пад ёй ставім невялікія яслі з фігуркамі Дзіцятка Езуса, анёлаў і жывёл.

І, канешне, менавіта ў гэты дзень рыхтуюцца святочныя стравы. Ужо з раніцы на кухні ўсё варыцца, парыцца, запякаецца, ажно горача! Трэба паспець да вячэры, на якую звычайна збіраецца ўся наша вялікая сям'я. Колькасць страў роўная 12-ці (па ліку апосталаў). Сярод іх, найперш, куцця. Таксама рыба некалькіх відаў, кампот з яблыкаў або груш, капуста з грыбамі. Апрача гэтага, пячэм бліны. Іх вельмі любіў мой дзядуля. Яго ўжо шмат гадоў няма, але кожны год на стале абавязкова ёсць бліны.

Стол таксама старанна рыхтуецца. Пад белы абрус мы кладзём трошкі сена, як сімвал ясляў, дзе нарадзіўся Езус. Ставім запаленую свечку. Яе заўсёды набываем у "Карытас", бо сродкі ад продажу ідуць на падарункі для дзяцей: сірот і для хворых у шпіталях. Лічым, што кожны павінен адчуць радасць – ніхто ў такі дзень не можа заставацца самотным і нешчаслівым.

Пад вечар пачынаюць збірацца госці. Некалі мы вось так разам з усімі братамі і сёстрамі, з дзядзькамі, цёткамі і іх дзецьмі збіраліся ў бабулі як старэйшай жанчыны роду. А цяпер усе прыходзяць да нас.

За стол садзяцца са з'яўленнем першай зоркі на небе. Спачатку гаспадар дома чытае з Бібліі ўрывак пра Божае Нараджэнне, далей адбываецца супольная малітва. А потым кожны па чарзе бярэ белую аплатку – і пачынаюцца віншаванні. Трэба асабіста падысці да ўсіх прысутных, падзяліцца аплаткай, павіншаваць, а таксама папрасіць прабачэння за тое, што здарылася непрыемнага на працягу года.

І толькі калі ўсе падзеляцца аплаткай, дазваляецца прыступіць да частавання, пачынаючы з куцці. На стале абавязкова знаходзіцца адна лішняя талерка з прыборамі – знак ушанавання памерлых продкаў.

Падчас вячэры мы разам спяваем традыцыйныя калядкі. А пасля выбіраемся ў касцёл на Пастэрку.

Пасля вяртання дадому дзеці хутка кладуцца спаць, бо раніцай трэба паспець прыбегчы да елачкі за падарункамі ад св. Мікалая. Цікава, што ён ніколі не забываецца і пра дарослых: заўсёды знаходзяцца сюрпрызы, зробленыя "нібыта маленькімі ручкамі".

Захаванне сямейных традыцый і звычаяў дазваляюць нейкім таямнічым спосабам сціраць часавыя межы, бо такім чынам нібы вакол святочнага стала збіраюцца не толькі жывыя, але таксама нябачна прысутнічаюць продкі. У гэты час пануе асаблівая атмасфера дабрыні і пашаны, якая спрыяе большай еднасці сям'і. У такія моманты адчуваеш моц, гонар і сапраўдную сілу.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

*6 снежня – II Нядзеля Адвэнту*
*Мк 1, 1–8*

Пачатак Евангелля Езуса Хрыста, Сына Божага. Як напісана ў прарока Ісаі: "Вось Я пасылаю Анёла Майго перад Табою, які падрыхтуе дарогу Тваю. Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму". З'явіўся Ян, хрысцячы ў пустыні і абвяшчаючы хрост пакаяння для адпушчэння грахоў. І выходзілі да Яго ўся краіна юдэйская і ўсе жыхары Іерусаліма, і прымалі ад яго хрост у рацэ Іардан, вызнаючы грахі свае.

Ян жа насіў адзенне з вярблюджай воўны і скураны пояс на бёдрах сваіх і еў саранчу і дзікі мёд. І прапаведаваў, кажучы: "Ідзе за мною мацнейшы за мяне, якому я не варты, нахіліўшыся, развязаць раменьчык на Яговых сандалях. Я хрысціў вас вадою, а Ён будзе хрысціць вас Святым Духам".

### Пакліканыя да святасці

*Адвэнтавае чаканне павінна быць напоўнена падрыхтоўкай да сустрэчы з Панам у таямніцы Яго нараджэння і вяртання на зямлю ў канцы часоў. На дапамогу нам у гэты час прыбывае св. Ян Хрысціцель, які "прайшоў усе ваколіцы Іардана, абвяшчаючы хрост пакаяння дзеля адпушчэння грахоў" (параўн. Лк 3, 3).*

*Святы мае для нас канкрэтную прапанову. Сваім вучэннем ён указвае на Месію, у якім знойдзем сапраўдную любоў, і раіць кожнаму сур'ёзна прыняць у сваім жыцці Божую любоў. Хто яе прыме, не зможа жыць па старых і грэшных звычках, прыкідвацца набожным ці ўзгадваць Бога толькі час ад часу. Таму той, хто сапраўды хоча падрыхтаваць у сваім сэрцы шлях Любові, павінен аддана прытрымлівацца Божага вучэння. У рэшце рэшт, нельга быць хрысціянінам з назвы альбо быць такім напалову.*

*Цярплівасць Бога заключаецца ў тым, што Ён хоча для людзей не пагібелі, а навяртання. Дзеля карысці чалавека Пан кожнаму дае адпаведны час, каб змяніць сваё жыццё. Асаблівa гэта тычыцца тых, у каго на сумленні шмат грахоў, хто адварочваецца ад Усемагутнага і нават здзекуецца з тых, хто верыць у Яго. Бясконцая цярплівасць і поўнае міласэрнасці сэрца Бога выяўляюцца ў тым, што Ён кожнаму дае шанс вярнуцца на шлях збаўлення. Аднак Божая ласка патрабуе ад нас канкрэтнага адказу.*

*Дарога да сустрэчы з Панам – гэта не толькі рэлігійныя практыкі, але і навяртанне сэрца. Таму будзем углядацца ў Неба, каб наша жыццё прынесла добры плён святасці.*

*Пане Езу, дапамажы мне стала імкнуцца за Табой, каб маё зямное жыццё прынесла плён ласкі Неба!*

*13 снежня – III Нядзеля Адвэнту*
*Ян 1, 6–8. 19–28*

З'явіўся чалавек, пасланы ад Бога; імя ягонае было Ян. Ён прыйшоў дзеля сведчання, каб сведчыць пра Святло, каб усе паверылі праз яго. Не быў ён святлом, але быў пасланы, каб сведчыць пра Святло. І вось сведчанне Яна. Калі юдэі паслалі з Іерусаліма святароў і левітаў, каб яны спыталіся ў яго: "Хто ты?", ён абвясціў, і не выракся, і вызнаў: "Я не Хрыстос". І спыталіся ў яго: "Дык хто ж? Ты Ілля?". І сказаў: "Не". "Ты прарок?". І ён адказаў: "Не". Тады сказалі яму: "Хто ж ты, каб нам адказаць тым, хто паслаў нас. Што гаворыш ты пра самога сябе?".

Ён сказаў: "Я голас таго, хто кліча ў пустыні: раўняйце дарогу Пану, як сказаў прарок Ісая". А пасланцы ж былі з фарысеяў. І яны спыталіся ў яго: "Тады чаму ты хрысціш, калі ты ні Хрыстос, ні Ілля, і ні прарок?". Ян сказаў ім у адказ: "Я хрышчу вадою. А сярод вас стаіць Той, каго вы не ведаеце, Той, хто ідзе за мною, якому я не варты развязаць раменьчык на сандалях Яговых".

Было гэта ў Бэтаніі, за Іарданам, дзе хрысціў Ян.

### Адказныя за збаўленне іншых

*Нас уражвае пакорная і адначасова поўная пасіі пастава св. Яна Хрысціцеля. Ён адмаўляе, што нібыта Месія, адмаўляе, што нібыта з'яўляецца вялікім пракорам Іллёй. І нават не хоча, каб яго ўвогуле лічылі прарокам. Згодны быць толькі "голасам" прарока. Ён тройчы прыніжае сябе перад іншымі, а потым і перад Тым, чыё прышэсце абвяшчае. Аднак гэтая сціпласць не гасіць у св. Яна жаданне, "каб усе паверылі праз яго" (Ян 1, 7) у Езуса, Збаўцу.*

*Падобна Яну Хрысціцелю, мы таксама атрымалі Святога Духа падчас хросту, пазней – у сакраманце канфірмацыі. Акрамя таго, атрымліваем Яго заўсёды, калі молімся аб Ім. Трэцяя асоба Святой Тройцы дазваляе нам вызнаваць, што Езус – Пан і Збаўца і пасылае нас актыўна ўдзельнічаць у справе новай евангелізацыі свету.*

*Ніхто не павінен гасіць у сабе гэтага Духа і абмяжоўвацца толькі паставай атрымальніка сродкаў збаўлення. Наадварот, мы ўсе пакліканы несці адказнасць за выратаванне сваіх братоў і сясцёр. Таму давайце пражывём Адвэнт так, каб нехта праз нас паверыў у Хрыста, бо гэта самая важная задача кожнага хрысціяніна.*

*Пане Езу, зрабі так, каб іншыя, бачачы мае ўчынкі і чуючы мае словы, маглі прыйсці да Цябе!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДРЭЮ ВІТЭКУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, мудрасці і цярплівасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом і ласкай. Няхай добры Бог адорвае бласлаўленнем, Езус Хрыстус ахоўвае ад бед, а Маці Божая і святы заступнік нястомна трымаюць Вас у сваёй апецы.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Воранава*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДРЭЮ АГЕЛЮ

*з нагоды імянін сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў, сапраўднай радасці і спакою. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Шчасці Божа!*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Шчучына*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РАМАНУ ЯЛОЎЧЫКУ

*з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем на доўгія гады і дадае сіл, каб далей ісці Яго дарогай. Няхай Хрыстос, якому Вы калісьці даверыліся, будзе побач, умацоўвае і аберагае, а Маці Божая заўсёды мае Вас у сваёй апецы.*

*З малітвай парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ РАДЗЕВІЧУ

*з нагоды імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог, які ўказаў Вам дарогу да святарства, вядзе праз жыццё і дапамагае перамагаць усе цяжкасці.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Бярозаўкі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ ЛЕБЯДЗЕВІЧУ

*з нагоды 13-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем вялікай радасці ад кожнага дня душпастырскай паслугі, Божага бласлаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог адорвае Вас моцным здароўем, а Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы і выпрошвае патрэбныя ласкі ў Пана, каб Вы далей адважна крочылі па сцежках святарскага жыцця. Няхай людзі, якіх сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць дабрынёй і зычлівасцю.*

*З малітвай вернікі з Жамыслаўля*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДРЭЮ ЗУЮ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, душэўнага супакою, святла Святога Духа, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай Ваша душа заўсёды будзе адкрытай і чыстай, напоўненай верай і надзеяй, а Ваша шчырая малітва і добрыя словы заўсёды дораць людзям натхненне.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ліпнішкаў*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ АРТУР МАЛАФЕЙ!

*З нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, ласкавай дапамогі Маці Міласэрнасці і св. айца Піо. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цяплом, радасцю, дабрынёй, любоўю і надзеяй, вера з кожным днём толькі ўзмацняецца, а ўсё запланаванае рэалізуецца з дапамогай Бога і людзей. Няхай душпастырская праца прыносіць шчодры плён, а наша малітва будзе для Вас падтрымкай у складаныя моманты.*

*З памяццю ў малітве вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДРЭЮ ВРУБЛЕЎСКАМУ

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, бласлаўлення ад Усемагутнага і толькі радасных хвілін у жыцці. Няхай Езус Хрыстус будзе Правадніком на ўсіх жыццёвых шляхах, Святы Дух нястомна ўдзяляе свае дары і дапамагае ў святарскім служэнні, а Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца Вамі і будзе побач.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Гродна-Дзевятоўка*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВАЛЕРЫЮ ЛІСОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, стойкасці, Божай дапамогі, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай Пан Езус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх руках, будзе шчодры на свае ласкі і напаўняе Ваша сэрца супакоем.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Вярэйкі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯЎГЕНУ УЧКУРОНІСУ

*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем душэўнага супакою, моцнага здароўя, шчасця, стойкасці, нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі і сілы, каб весці люд да Пана. Няхай міласэрны Бог бласлаўляе на чарговыя гады і дазволіць рэалізаваць усе планы і намеры, Езус падтрымлівае ва ўсім, Святы Дух спасылае свае дары, Найсвяцейшая Маці апекуецца і дапамагае ў складаныя хвіліны, а св. Ян Павел ІІ, заступнік нашай парафіі, выпрошвае ў Езуса і Марыі ўсе неабходныя ласкі. Дзякуем за штодзённую малітву і служэнне, за клопат, дабрыню і зычлівасць да кожнага з нас.*

*З малітвай Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЯНОВІЧУ

*з нагоды 5-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і бласлаўлёны, міласэрны Бог нястомна ўмацоўвае Вас у пакліканні, адорвае патрэбнымі ласкамі ў кожную хвіліну жыцця, а Марыя ахінае мацярынскай апекай. Дзякуем за добрае сэрца і цудоўны прыклад веры.*

*З малітвай і павагай парафіяне з Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ПРОБАШЧУ АНДРЭЮ ЗУЮ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў у душпастырскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным, а Бог няспынна адорвае Вас сваімі ласкамі.*

*З павагай і любоўю вернікі з в. Некрашы*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ВАЛЬДЭМАРУ СЛОТУ

*з нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем нязгаснага запалу веры, моцнага здароўя, сіл і радасці. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю, а Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, асабліва ў цяжкія хвіліны жыцця.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вялікай Бераставіцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, добрых людзей побач, апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа і дапамогі святога заступніка ў кожную хвіліну жыцця. Няхай Пан Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца і адорыць шматлікімі ласкамі.*

*З малітвай удзячныя парафіяне з Малой Бераставіцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, апекі Панны Марыі, нястомнай дапамогі святога заступніка, а таксама моцнага здароўя, вытрымкі, радасці і добразычлівых людзей побач.*

*Парафіяне з капліцы ў Масалянах*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

Складаем словы шчырага спачування і жалю ўсім, хто перажывае смерць

**КСЯНДЗА ЛЕАНІДА МОЗГЕЛЯ І ЯГО МАМЫ СТАНІСЛАВЫ.**

Асабліва яднаемся ў малітве і дзелім смутак з Рамуальдам Мозгелем, усімі роднымі і блізкімі, аднавяскоўцамі ксяндза з вёсак Карэвічы і Старыя Васілішкі Шчучынскага раёна.

Няхай міласэрны Бог дадасць сіл, каб перанесці цяжар страты блізкіх асоб, і як мага хутчэй прыме душы памерлых у сваё Валадарства.

*Са смуткам і малітвай вернікі з Паўяцкай і былой Лявонпальскай парафій Мёрскага раёна Віцебскай вобласці*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Біскуп Антоній Дзям'янка нанава блаславіў адбудаваны касцёл у Воўчыне (Пінская дыяцэзія).

Асвячэнне старадаўняй святыні пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы, Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Станіслава, біскупа і мучаніка, здзейсніў 21 ліпеня 1743 года біскуп Луцкі і Брэсцкі Францішак Антоній Кабельскі. Пазней касцёл шмат разоў разбураўся і перабудоўваўся. Апошнія аднаўленчыя працы трывалі з 2009 года.

Пробашч парафіі кс. Андрэй Бародзіч ад імя мясцовых вернікаў падзякаваў біскупу за ўрачыстае бласлаўленне касцёла і за дапамогу ў заканчэнні рамонтных прац.




**рэлігійны часопіс**

Сёння самай вялікай прычынай разбурэння міру з'яўляюцца аборты, бо Езус казаў, што, прымаючы дзіця, мы Яго прымаем. Таму кожны аборт – гэта адмова прыняць Езуса, ігнараванне Яго.

Аборт з'яўляецца фактычна вайной супраць дзіцяці, прамым забойствам нявіннага немаўляці, якога забівае сама маці. І калі мы пагаджаемся з тым, што маці можа забіць сваё дзіця, то як можам забараніць іншым людзям забіваць адзін аднаго?.. Любая краіна, якая дазваляе аборт, не вучыць сваіх грамадзян узаемнай любові, але вучыць выкарыстоўваць гвалт для дасягнення таго, чаго хочацца.




**рэлігійны часопіс**

Не ведаю, ці ёсць людзі, якія ніколі не чулі спеў на пахаваннях, але ведаю такіх, якія чулі і не надта прыхільна да гэтага ставяцца: маўляў, у хаце гора, а тут пеўчыя. Але ў гэтым месцы трэба было б задумацца, каб адказаць сабе на простае пытанне: аб чым і для каго яны спяваюць? А можна было б, нічога не аналізуючы, не кідаючыся ні ў якія "разборкі", проста даверыцца векавой мудрасці і досведу тых, хто жыў задоўга перад намі... У гэтыя цяжкія хвіліны сабраныя каля труны вернікі просяць Бога аб прабачэнні грахоў і аб дары вечнага жыцця для памерлага.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Партал Гродзенскай дыяцэзіі заахвочвае паглыбіцца ў атмасферу радаснага чакання, зрабіць адвэнтавы вянок ці стэнку, сфатаграфаваць іх і выслаць здымкі на пошту рэдакцыі grodnesis@gmail.com. Пажаданне: маюць быць добрай якасці ў гарызантальным фармаце (у лісце неабходна пазначыць сваё імя, прозвішча і парафію). Такім чынам аўдыторыя можа сузіраць, як дыяцэзія прыгожа рыхтуецца да Божага Нараджэння.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5021; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.